РАЗВІТАННЕ

# Бывайце, Вячаслаў Францавіч…

*Раніцай 9 снежня памёр першы прэм'ер-міністр незалежнай Беларусі Вячаслаў Кебіч. Яму было 84 гады.*



26 лістапада ён захварэў на каранавірус, знаходзіўся ў бальніцы. Інфармацыі пра пахаванне пакуль няма.

Вячаслаў Францавіч Кебіч нарадзіўся 10 чэрвеня 1936 года на Валожыншчыне.

Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Быў дырэктарам Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кірава, другім сакратаром Мінскага гарадскога камітэта, а затым – абласнога камітэта КПБ.

У 1985–1990-м – намеснік старшыні Савета міністраў БССР – старшыня Дзяржплана БССР.

У 1990–1994 гадах – старшыня Саўміна БССР і незалежнай Рэспублікі Беларусь.

Прайграў прэзідэнцкія выбары Лукашэнку летам 1994 года. Сышоў у адстаўку 21 ліпеня 1994 года.

З 1996-га па 2004 год Вячаслаў Кебіч з'яўляўся дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Адметна, што 29 гадоў таму, 8 снежня 1991 года, разам са Станіславам Шушкевічам ад імя Беларусі падпісаў Белавежскае пагадненне аб ліквідацыі СССР.

ОПТИМИСТИЧЕСКАЯ ТРАГЕДИЯ

# Сорвать балаклаву…

*Сорвавшую балаклаву с омоновца белоруску, которая является гражданкой Швейцарии, отправляют в колонию. Это первый с начала протестов приговор женщине.*

Блондинка в клетке поднимает руку и складывает пальцы буквой V. Только что ей огласили приговор: два с половиной года колонии за сорванную с омоновца балаклаву. Блондинка одета в белое и красное. Она красивая, и ей не страшно.

Вообще-то Наталья Херше давно живет в Швейцарии и является ее гражданкой. В августовских протестах не участвовала, приехала в Минск в отпуск в середине сентября. Планировала провести на родине 10 дней. А 18 сентября из социальных сетей узнала, что у активистки «Европейской Беларуси» Елены Лазарчик отобрали сына.



История, которая заставила швейцарку Наталью Херше выйти на улицу и присоединиться к протестам, была действительно чудовищной. Елена Лазарчик 17 сентября в четыре часа дня вышла из офиса правозащитной организации. Оттуда она должна была ехать в школу забирать из продленки шестилетнего сына, первоклассника Артема. Но на улице к ней, как это часто бывает в Беларуси, подошли двое в штатском, затолкали в машину и увезли в отделение милиции.

Там даже протокол не оформляли, просто задавали какие-то дурацкие вопросы о ее участии в акциях протеста. Из милиции Елену выпустили только в 11 вечера. Оказалось, что за это время школьные педагоги отправили мальчика в приют Фрунзенского района, несмотря на то, что дома была старшая дочь Елены – 23-летняя Марина, чей телефон в распоряжении школьного начальства был.

А на следующий день Елене Артема не отдали. В школе посоветовали разбираться с опекой самостоятельно, в управлении образования сказали, что никаких препятствий нет. Но в приюте мальчика не отдали, потому что у матери не было никаких бумаг от государства. К вечеру того же дня история Елены разлетелась по социальным сетям и телеграм-каналам. И белорусы, которые к тому времени уже больше месяца учились приходить на помощь друг другу без всяких призывов и повесток, договорились собраться в субботу утром у приюта и вместе добиться освобождения ребенка. В том числе и Наталья Херше.

19 сентября она была среди сотен белорусов, которые собрались в Минске на улице Бирюзова возле приюта. Артема матери вернули. Именно так началась та суббота. В тот же день планировался женский марш. И Наталья Херше, вдохновленная тем, что солидарностью можно многого добиться, позвонила брату Геннадию и сказала, что пойдет и на женский марш.

19 сентября на марше были задержаны 415 человек. 385 из них вечером отпустили. В ИВС на Окрестина оставили 30 человек, в том числе Наталью Херше. Ей присудили 15 суток ареста за участие в несанкционированном мероприятии. А после 15 суток вручили постановление о привлечении в качестве обвиняемой по уголовному делу по статье 363, часть 2 УК Беларуси («Сопротивление сотруднику органов внутренних дел или иному лицу, охраняющим общественный порядок, сопряженное с применением насилия или угрозой его применения») и этапировали в СИЗО Жодино. Оказалось, что, когда трое омоновцев затаскивали Наталью в автозак, она сорвала с одного из них балаклаву. И теперь она обвиняемая, а он потерпевший. И теперь у него есть не только лицо, но и фамилия: Кончик.

Потерпевший Кончик к тому же написал исковое заявление. Сначала потребовал 100 рублей компенсации (около 3000 российских рублей), потом потребовал 1000. И не из-за испорченной балаклавы, а потому, что на видео попал его затылок, и теперь злобные белорусы его опознали и угрожают.

Прокурор потребовал для Натальи два с половиной года колонии. Судья Сергей Шатило стольно и дал. Весь процесс уложился в два дня.

В своем последнем слове Наталья Херше сказала: *«Я живу в европейской демократической стране* (**уже 12 лет. – Ред.**), *где демократические принципы и свободы являются необходимым условием правления на всех уровнях и параллелях власти. Где право свободы слова и мирных собраний определены Конституцией и гарантируются государством. Где полицейские не прячут лиц перед мирными демонстрантами. Именно такой я вижу мою родину – Беларусь будущего, свободную Беларусь».*

В суд ее привезли одетой в бело-красные цвета. И это тоже наверняка повлияло на приговор: и цвета, от которых «ябатек» бросает в дрожь, и непризнание вины, и спокойствие, и достоинство. Возможно, если бы просила прощения и каялась, обошлось бы штрафом и отправили в Швейцарию. А теперь Наталье предстоит этап в гомельскую женскую колонию.

Еще судья постановил уничтожить бело-красно-белый флаг, который изъяли у Натальи Херше во время задержания. К счастью, флагов у белорусов хватает. Шить их научились, пожалуй, уже все. По крайней мере 97 процентов.

**Ирина ХАЛИП.**

*(«Новая газета».)*

КАМПЕТЭНТНАЕ МЕРКАВАННЕ

# «За пару месяцаў усё пайшло на сметнік»

## *Аналітык Крутцына пра інвестыцыі і бізнес у Беларусі*

*Адзін з найлепшых заходніх экспертаў у беларускай эканоміцы і бізнесе, выпускнік Гарварда* ***Даніэль Крутцына****, які 13 гадоў працаваў у Беларусі, расказвае, што робіцца з бізнесам і інвестыцыямі, чаму не адбываецца расколу эліт і як змянілася беларускае грамадства за апошнія паўгода.*

### «Доўгатэрміновы эфект ад палітычнага крызісу можа быць значна больш жорсткім, чым ад каранавіруса і эканамічнага крызісу»

**– Вы больш за 12 гадоў працавалі ў Беларусі. Наколькі вас здзівіла (ці не), шакіравала, засмуціла, узрушыла тое, што адбываецца ў Беларусі апошнія паўгода?**

– У маім атачэнні з дэ-факта нікога не ведаю, хто б прадказаў падзеі, як яны развіваліся ад вясны: рэакцыя на каранавірус, з'яўленне кандыдатаў і жорсткасць у жніўні. Я не ведаю чалавека, які чакаў такога развароту падзей. Гэта беспрэцэдэнтна, нават у параўнанні з падзеямі 2010 года. Ніхто не можа быць абыякавы ў гэтым плане.

У мяне даволі вялікае кола кантактаў – і з улады, і з апазіцыі. З майго блізкага асяроддзя, асабліва журналісцкага, вельмі шмат людзей арыштавалі; былі рэпрэсіраваны мае знаёмыя, хто выйшаў на пратэсты.

Я па-ранейшаму працую з Беларуссю, на гэтым этапе дыстанцыйна. Мы зрабілі апытанне сярод прадстаўнікоў бізнесу: 40 працэнтаў апытаных называюць найвялікшай пагрозай для бізнесу палітычны крызіс, толькі 20 працэнтаў гавораць пра каранавірус. Доўгатэрміновы эфект ад палітычнага крызісу можа быць значна больш жорсткім, чым ад каранавіруса і эканамічнага крызісу.

### «Столькі гадоў выбудоўвалі шматвектарнасць Беларусі, і за пару месяцаў усё пайшло на сметнік»

**– З вашага пункту гледжання, як рэпрэсіі і палітычны крызіс паўплывалі на развіццё бізнесу, на інвестыцыйны клімат у Беларусі?**

– Не зразумець планы, гарызонты планавання. Усе буйныя інвестыцыйныя праекты адкладзены, людзі хочуць зразумець, як доўга гэта будзе працягвацца. Попыт упаў значна больш, чым нават чакалася ад простага эканамічнага крызісу. Што тычыцца інвестыцыйнага клімату, то рэсурсы моцна падаражэлі, бо рэфінансаванне Захаду вельмі дарагое ў сувязі з палітычным крызісам. Ёсць вялікае пытанне з пункту гледжання інвестыцый. Калі будзе закрывацца заходні вектар, то застаюцца Расія, Кітай і, можа, арабскі свет, што, натуральна, прыток інвестыцый абмяжоўвае і супярэчыць усёй дзяржаўнай дактрыне мультывектарнай палітыкі, якая з цяжкасцю выстройвалася доўгія гады. Я маю водгукі на мае публікацыі ў TUT.BY і іншых СМІ ад прадстаўнікоў дзяржавы, якія кажуць: мы столькі гадоў выбудоўвалі шматвектарнасць Беларусі, каб дыверсіфікаваць эканоміку, зрабіць яе менш уразлівай да шокаў, і за пару месяцаў усё пайшло на сметнік. Людзі вельмі ўсхваляваны.

**– Ці назвалі б вы эканамічную сітуацыю крытычнай? Катастрафічнай?**

– Яна шчыльна залежыць ад таго, як развіваецца палітычная сітуацыя. Усе донарскія праекты спынены, усе праекты міжнародных фінансавых інстытутаў, звязаныя з дзяржавай, катэгарычна спыніліся. Ёсць невялікія выключэнні з праектамі ў водазабеспячэнні, якія непасрэдна дапамагаюць насельніцтву. У цэлым вельмі шмат спынена, і гэта мае ўплыў на інвестыцыйную дзейнасць і на кошт капіталу.

### «Мы ўжо назіраем вялікі адток кваліфікаваных кадраў»

**– У выпадку, калі Лукашэнку ўдасца задушыць пратэсты і працягваць кіраваць краінай, якія гэта будзе мець наступствы для эканомікі, бізнесу? Адны з'ехалі, другія ў турмах, трэцих звольнілі...**

– Мы ўжо назіраем вялікі адток кваліфікаваных кадраў. 20 тысяч з'ехалі ў Польшчу, і гэта не толькі IT, але і іншыя спецыяльнасці. У краіны Балтыі ідзе вялікі адток спецыялістаў IT-сферы, ва Украіну вялікі адток спецыялістаў. Адначасна ідуць кансультацыі ва Украіне, каб там паўтарыць мадэль Парка высокіх тэхналогій і наўпрост канкураваць у такой сітуацыі, і гэта, натуральна, азначае вялікі адток кадраў. Што да заходніх краін, я структураваных дадзеных за апошні месяц не бачыў, але кадравыя страты адчуваюцца.

Было відаць са статыстыкі, што выручка ад экспарту IT-паслуг знізілася як мінімум на 30 працэнтаў ад пачатку жнівеньскіх падзей. Гэта вельмі адчувальна. Цяпер ключавы фактар – ці ўдасца наладзіць нейкі дыялог, які можа быць звязаны з транзітам улады ці ў іншым ключы, каб спыніць гэтыя працэсы і нейкім чынам аднавіць давер да Беларусі ў вачах міжнародных інвестараў. І бізнесу беларускага таксама.

За 13 гадоў, што я працаваў у Беларусі, былі звароты IT-кампаній для рэлакацыі, такіх зваротаў заўсёды шмат было, але цяпер і з рэальнага сектара ідуць звароты кампаній, бізнесоўцаў, якія думаюць, як усе актывы ў Беларусі прадаць і з'ехаць, нават калі гэта звязана з вялікім дыскамфортам. Такое мы назіраем упершыню. Гэта сумна нашчу і таму, што мне здавалася, што ўсё ж Беларусь і беларускія прадпрымальнікі крыху адрозніваюцца, яны былі менш апартуністычныя, чым у краінах-суседзях, дзе бізнес мог хутка абагаціцца праз прыватызацыю. У Беларусі пачыналася з 1990-х гадоў быў касцяк сямейных бізнесаў, якія нешта пабудавалі, інвеставалі ў доўгатэрміновае, каб пакінуць у спадчыну дзецям. І калі менавіта такія бізнесы, якія былі лаяльнымі 25–30 гадоў у Беларусі, думаюць, ці варта далей у гэтай краіне інвеставаць, – гэта вельмі дрэнная прыкмета.

Я не сказаў бы, што гэта масавая з'ява, але такое здараецца. Мяне здзівіла, што былі звароты не толькі з IT, але і са сферы вытворчасці, гандлю; такія бізнесы, якія ты не можаш лёгка ўзяць з сабой і перанесці ў іншую краіну, бо яны завязаны на беларускі рынак, на веданне спажыўца, на пэўныя нішы, якія ты заваяваў за многія гады. Такога не возьмеш з сабой. Але, праўдападобна, у некаторых цяпер настолькі моцныя сумневы, што яны проста разглядаюць, як прадаць бізнес і вывезці капітал.

### «Вельмі важна, як будзе выглядаць транзіт улады, хто прыйдзе»

**– Калі ў краіне зменіцца ўлада і пачнуцца дэмакратычныя і рынкавыя рэформы, як хутка можна будзе пераадолець эканамічны крызіс? Якія вашы прагнозы?**

– Нават пры сыходзе цяперашняй улады няма гарантыі, што заўтра ўсё стане добра. Вельмі шмат падводных камянёў, каб краіна засталася стабільнай і каб не было нейкіх хаатычных момантаў. Вельмі важна, як будзе выглядаць транзіт улады, хто прыйдзе. Больш рынкавыя людзі, людзі, якія хочуць працягваць мультывектарнасць Беларусі? Які ўплыў будуць аказваць Расія і Захад? Складана сказаць, што будзе. Мне здаецца, што пакуль не позна знайсці нейкі кампраміс, які быў бы ў нацыянальных інтарэсах усёй Беларусі. Калі будзе рэалізоўвацца моцная патрэба ў рэформах, калі аднавіць давер у IT-сферы, я думаю, што эканоміка магла б аднавіцца дастаткова хутка. Ва ўмовах кавіду і глабальнай дэпрэсіі ўсё будзе не так хутка, але, мне здаецца, прынамсі ў 2022 годзе Беларусь магла б вярнуцца да нейкага нармальнага росту. Складана прадказваць, бо гэта ад многіх фактараў залежыць: калі абвесціць новыя выбары, калі яны адбудуцца, якія будуць кандыдаты. Усё роўна будзе некаторы перыяд няпэўнасці, пакуль не стане зразумела, у які бок краіна будзе рухацца.

**– Вы кажаце пра кампраміс. Як вам здаецца, ці здольны на кампраміс той чалавек, які цяпер на чале Беларусі, якога ў свеце не прызнаюць легітымным прэзідэнтам? І ці здольны на кампраміс людзі ва ўрадзе, людзі, якіх мы цяпер не чуем, з якімі вы актыўна кантактавалі, калі працавалі ў Беларусі?**

– Я больш кантактаваў з блокам урада, арыентаваным на рэформы, ад якога мала хто застаўся. Цяпер складана сказаць. Многіх я проста не ведаю асабіста. Мне здаецца, што любы чалавек, які думае рацыянальна, павінен зразумець, што для Беларусі самае выгаднае эканамічнае становішча – каб рынкі былі адкрыты на Захад, на Усход, на Поўдзень, на азіяцкі рынак, і менавіта такую мадэль трэба аднавіць, мультывектарную мадэль беларускай эканомікі, не моцна прывязаную да адной краіны. Што я маю на ўвазе пад кампрамісам? Я не хацеў бы моцна каментаваць палітычныя падзеі, але мне здаецца, у такой сітуацыі, калі Беларусі прыйдзецца выбіраць, быць з Захадам ці з Усходам, гэта дрэнны выбар, які ў любым выпадку прынясе з сабой моцныя эканамічныя абмежаванні і страты. У гэтым плане павінен знайсціся кампраміс. У эканамічным плане Беларусь жыла не так дрэнна многія гады.

### «Калі гаварыць пра рычагі Захаду, то эканамічных санкцый, іх эфектыўнасці, іх уплыву на ўлады і на звычайных людзей?

**– Якая ваша пазіцыя да ўвядзення эканамічных санкцый, іх эфектыўнасці, іх уплыву на ўлады і на звычайных людзей?**

– Эканамічныя санкцыі, калі яны тычацца гандлю нафтай, адключэння SWIFT, моцна адаб'юцца на насельніцтве ў цэлым. Я не ўпэўнены ў іх мэтазгоднасці. Калі мова ідзе пра мэцы? Ці будзе гэта азначаць, што мы рычаг Расіі ўзмацняем, ці будзе гэта азначаць крок адчаю, калі могуць прадавацца ключавыя актывы ў краіне, «фамільнае срэбра»? І гэта кепска, я лічу. Іншае пытанне – абкласці канкрэтнымі санкцыямі афіляваных кампаніі. Гэта можа быць больш эфектыўным інструментам, але, на мой погляд, гэта ў меншай ступені вырашае ЕС, а хутчэй Швейцарыя і арабскія краіны. Пакуль я не бачу кансалідаванай пазіцыі Захаду ў гэтым пытанні, і апазіцыя мае розныя погляды.

Я лічу аптымальным варыянтам, каб змаглі дамовіцца ўнутры Беларусі. Я асабіста моцна расчараваны, што кіраўніцтва краіны адмаўляецца ад нармальных перамоў, каб Беларусь вырашыла крызіс унутры краіны і не была пад вонкавымі ўплывамі, якія гэты канфлікт могуць выкарыстоўваць, каб перацягнуць коўдру на сябе. Гэта ўплыў Расіі, які аднавначна ўзмацніўся. Калі казаць пра рычагі Захаду, то эканамічных рычагоў, праўдзе, я вялікіх не бачу.

### «Гэта пачалося з няслушнай ацэнкі небяспекі каранавіруса ўвесну»

**– У вас было вельмі шмат кантактаў у Беларусі як у бізнес-колах, у экспертнай супольнасці, так і ва ўрадзе. Як вы лічыце, чаму пакуль не адбываецца расколу эліт? І ці адбудзецца ён?**

– Я тут не эксперт, але мне здаецца, што ўся гісторыя гэтага года паказвае слабасць сістэмы, дзе рашэнні прымаюцца зверху ўніз і дзе вельмі мала магчымасці зваротнай сувязі і дыскусіі, перад тым каб прыйсці да нейкай высновы. Гэта пачалося з няслушнай ацэнкі небяспекі каранавіруса ўвесну. Праўдападобна, ні ў кога не было магчымасці данесці да кіраўніцтва інфармацыю пра сур'ёзнасць каранавіруса. Магло быць больш узважанае рашэнне і дыялог, чым валявое рашэнне, што вірус не небяспечны, рухаемся далей. І далейшыя крокі супраць апазіцыйных лідараў. Усё гэта можна было б урэгуляваць па-іншаму, калі б была іншая культура дыялёгу і адносін.

З майго досведу працы ў эканамічных праектах звычайна не было так, што адзін чалавек аўтарытарным спосабам вырашаў, – збіраліся кансіліўмы, кожны меў сваю думку (Саўмін, Міністэрства эканомікі, галіновыя міністэрствы, аблвыканкамы, кіраўнікі прадпрыемстваў), звычайна пытанне калектыўна абмяркоўвалася і прымалася калектыўнае рашэнне. Яно магло быць мадэрніравана прэзідэнтам, іншымі кіраўнікамі, але ўсё ж выслухоўваліся думкі. Мне збоку здавалася, што сёлета многія рашэнні прымаліся дастаткова спантанна, недастаткова глыбока прапрацавана ў адкрытай ці менш адкрытай дыскусіі. Гэта паказвае слабыя бакі сістэмы, пабудаванай не знізу ўверх, не ў дыялогу, а зверху ўніз.

### «З двух бакоў барыкад людзі, якія рэальна вераць у тое, што яны робяць»

**– Нядаўна вы напісалі ў фэйсбуку, што «экасістэма грамадзянскіх стартапаў у 2020 годзе ў Беларусі была сфарміравана за пару месяцаў». З вашага пункту гледжання, якія пазітыўныя змены адбыліся ў Беларусі за апошнія паўгода?**

– Гэта сапраўды ўнікальна і паказвае творчы і інавацыйны патэнцыял беларусаў, які ідзе далей за IT. Беларусы стварылі надзвычайную колькасць музыкі: пратэставай, супрацьпратэставай, самай рознай. У гэтай карце экасістэмы грамадзянскіх стартапаў добра відаць сувязь паміж тэхналогіямі і грамадскай пазіцыяй. Мы доўга чакалі, што ўрэшце IT-галіна будзе выкарыстана для мадэрнізацыі эканомікі і грамадства ў цэлым у Беларусі. І гэтая стыкоўка цяпер вельмі добра бачна. Яна захапляе і паказвае, што беларусы не толькі думаюць пра заробак і асабісты дабрабыт, а людзі гатовы працаваць на свае ідэалагічныя пазіцыі. Гэта, напэўна, адбываецца з двух бакоў барыкад. Для мяне пазітыўна, што Беларусь не краіна, дзе за грошы можна ўсё купіць. Мне думаецца, там з двух бакоў барыкад людзі, якія рэальна вераць у тое, што яны робяць. Ім трэба проста сесці за стол перамоў і вырашыць, у якой краіне ў цэлым беларусы хочуць разам жыць.

Кожны мае прыняць рашэнне, слушнае для сябе. Я не стаў бы асуджаць людзей, якія вырашылі, што ў гэтай сітуацыі трэба з'язджаць з краіны, хаця б часова. Мне вельмі падабаецца, як актывізавалася беларуская дыяспара ва ўсім свеце. У гэтым вялікі патэнцыял, які абавязкова ў будучыні трэба выкарыстаць для аднаўлення эканомікі і мадэрнізацыі краіны. У Мюнхене, на Мюнхеншчыне вялікая і актыўная дыяспара. Цяпер унікальны момант для аб'яднання і стварэння інфраструктуры, якая ў будучыні дапаможа краіне вызначыцца, развівацца, мадэрнізавацца. Многія людзі гатовы, і гэта не матываванa грашыма. Я асабіста не шкадую пра свой выбар, у мяне былі вельмі добрыя гады ў Беларусі, я вельмі спадзяюся, што ў любым выпадку магу быць карысным для Беларусі і ў будучыні, але часова пакуль знаходжуся ў Нямеччыне.

**Ганна СОЎСЬ.**

*(Svaboda.org)*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Каб забаяліся чужыя, суд справу і сваім прышые

У Бешанковічах суд аштрафаваў мужчыну на 54 рублі за тое, што ён стаяў на плошчы з афіцыйным сцягам Віцебскай вобласці.

Прыкмета часу: быць бядзе,
Як чалавек задужа смелы
Са сцягам некуды ідзе,
А сцяг той бел-чырвона-белы.
У чалавека справы швах:
Амапаўцы зграбуць за шкіркі,
Паквэцаюць ягоны сцяг
І адаб'юць самому ныркі.
"Узбунтаваліся рабы",
І ўзнікла паніка такая,
Што ў некаторых сцяг любы
Амаль шаленства выклікае.
Ці анархістаў палатно,
Ці сцяг, якім махаюць геі, –
Для іх, падобна, ўсё адно,
І збоку кожнаму відно,
Што дур улады ў апагеі.
І гэткі ў супастатаў страх,
Што трэба помач медыцыны…
Вось, скажам, нёс мужчына сцяг.
Ён не "нацдэмны", афіцыйны,
Хоць і тутэйшы, абласны.
І што ж "ахоўнікі парадку"?
Судзілі беднага яны,
Аштрафавалі для пачатку.
А пападзецца ў раз другі –
Чакае шлях у каталажку.
Там уваб'юць яму ў мазгі:
Чым у руках насіць сцягі,
З суседам лепей выпі пляшку…
***
Яшчэ спазнаем шмат пакут…
Шалеюць проста супастаты.
Не дзіўна, што трапляе ў суд
Той, хто ні ў чым не вінаваты:
Спярша граміла б'е пад дых,
А потым следчы справу шые.
Напэўна, біцьмуць і сваіх,
Каб забаяліся чужыя…

## Ён абкрадаў аўтамабілі, а «касманаўты» не пабілі…

У Брэсце злодзей хадзіў па дварах, тузаў за дзверцы аўтамабіляў і, калі яны не былі замкнутыя, краў з салонаў рэчы. Тузануў за дзверцы мікрааўтобуса, а ў "бусіку" сядзелі амапаўцы… Злодзея затрымалі.

Зараз змрочны час такі,
Што ў трывозе беларусы:
Кінь пагляд ва ўсе бакі –
Быццам гнойныя жукі,
Тут і там АМАПа "бусы".
Як драпежныя ваўкі,
Прытаіліся ў засадзе,
Рваць гатовы на шматкі
Тых, хто шле праклёны ўладзе.
"Бусаў" тых настолькі шмат –
Размінуцца з імі цяжка.
З-за таго ў зладзюгі нат
Выйшла прыкрая прамашка.
Шастаў злодзей у двары,
Правяраў аўтамабілі.
Калі іх гаспадары
На замок узяць забылі,
Дык залазіў у салон,
Забіраў чужыя рэчы.
Там і "бус" заўважыў ён,
Што без нумара, дарэчы.
"Мабыць, многа ў ім дабра, –
"Бус" зламыснік еў вачыма. –
Выйду з гэтага двара
Я Ракфелерам, магчыма.
Мецьму з ходкі добры плён…"
Стала радасна на сэрцы,
Як памацаў ручку ён:
На замок не ўзяты дзверцы!
Разявака гаспадар!
Праваліўся ў сон нібыта,
Бо машына – во кашмар! –
"Касманаўтамі" набіта.
Як скафандры, сапраўды
Выглядалі іх шаломы.
Для зладзюгі-гламазды —
Што й казаць – фінал вядомы…
***
Цяжкавата, не сакрэт,
"Бунтаваць" народным масам:
З горкай явы і з газет
Знаем мы апошнім часам,
Што амапаўцы людзей
Б'юць яшчэ ў аўтамабілі.
А папаўся ліхадзей –
Ліхадзея не пабілі…

АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ ПОГЛЯД

# Спадар Вячаслаў, цягаць гіры, мабыць, лягчэй, чым думаць галавой…

Выпадкова трапіла ў рукі пралукашэнкаўская газета з інтэрв'ю Вячаслава Харанекі. Ведаю: яго імя занесена ў кнігу-энцыклапедыю Гінеса "100 вялікіх рэкордаў чалавека". Ён не раз здзіўляў сваёй фізічнай сілай, умельствам прадэманстраваць яе гледачам. Але я не прыгадаю, каб раней ён адкрыта выказваў свае палітычныя погляды. А тут цэлую лекцыю прачытаў у сувязі з сітуацыяй, якая склалася ў Беларусі пасля выбараў. З рэзкай крытыкай абрынуўся на тых спартсменаў, якія пратэстуюць супраць фальсіфікацыі вынікаў галасавання і гвалту, які чыняць сілавікі над мірным насельніцтвам. Вось яго маналог (цытую):

*– Рабяты, вы разбярыцеся! Ці туды вы лезеце і ці за тыя ідэалы змагаецеся? Узважце ўсё, думайце галавой. Спартсменаў, якія выказваюць сваё незадавальненне, я наогул зразумець не магу. Краіна вам столькі дала, без дапамогі дзяржавы не было б вашых медалёў і рэкордаў, вы не зрабілі б сабе імя! Дабро трэба помніць! І быць удзячным.*

Скажыце, шаноўныя чытачы, чаго ў гэтай маралізацыі болей – рэзоннай праўды ці прымітыўнай дэмагогіі? Мне здаецца, апошняга намнога больш. Ці ж можна ганьбіць тых спартсменаў, якія адстойваюць, па-першае, ПРАЎДУ, СПРАВЯДЛІВАСЦЬ, а па-другое, кіруюцца не столькі сваімі ўласнымі інтарэсамі, колькі хвалююцца за будучыню ўсёй Беларусі? Вы, спадар Харанека, і слова не прамовілі пра тое, якое злачынства адбылося 9 жніўня. Як быццам вам не вядома, чаму людзі выйшлі на вуліцы і плошчы. Вы што, сляпы і глухі, не ведаеце пра сотні, тысячы неабвержных фактаў фальсіфікацый вынікаў галасавання на прэзідэнцкіх выбарах? Дарэчы, за некалькі дзён да завяршэння палітычнай кампаніі вы сцвярджалі: *"Нынешний Президент – это глыба. И я на 150 процентов уверен, что он останется на следующий срок"*. Словы, сказаныя ў жніўні, вы паўтарылі і ў нядаўнім інтэрв'ю. Няўжо і пасля таго, што адбылося ў краіне чатыры месяцы таму і што адбываецца па сённяшні час, вы па-ранейшаму ідэалізуеце Лукашэнку як глыбу на палітычным полі? А хто, як не ён, у першаю чаргу вінаваты ў тым, што мільёнам сумленных людзей плюнулі ў душу, сфабрыкаваўшы вынікі галасавання? Ці ж пратэставаў бы народ, калі б выбары былі праведзены чэсна, дэмакратычна?

Вы, спадар-таварыш Харанека, не можаце зразумець, чаму многія-многія спартсмены выказваюць сваё незадавальненне. Дык вось я вам скажу: іх чыстае сумленне не дазваляе ім змірыцца з той нахабнай хлуснёй, якая льецца з усіх праўладных прапагандысцкіх рупараў. Яны не сляпыя і не глухія. Яны ўсё бачаць і ўсё чуюць. Яны такія ж грамадзяне, як і ўсе астатнія. Іх галасы, як і галасы мільёнаў іншых выбаршчыкаў, улады скралі. Калі вы не ведаеце, як усё арганізоўвалася, дык я вам раскажу.

Пачыналася ўсё з фарміравання ўчастковых і рэгіянальных камісій. Колькі ў іх трапіла прадстаўнікоў дэмакратычных партый, рухаў, аб'яднанняў? Лічы, ноль цэлых ноль дзясятых. А як з гэтымі камісіямі папрацавалі кіраўнікі ўсіх вертыкальных органаў напярэдадні саміх выбараў? Паўсюль старшыні і сакратары камісій былі склíканы на закрытыя сходы, на якіх яны атрымалі арыенціроўкі, хто павінен набраць найбольш галасоў. Заўважце: не гаварылася аб тым, што на ўсіх этапах выбары неабходна праводзіць чэсна, без усялякіх махінацый, а, наадварот, фактычна давалася ўказанне на тое, каб любым чынам засведчыць перамогу аднаго чалавека. Няўжо, спадар-таварыш Харанека, вы не чулі пра тыя аўдыязапісы, якія тайна зрабілі сумленныя людзі і якія трапілі ў сродкі масавай інфармацыі? Яны і раскрылі ўсю махлярскую кухню ўлад. І гонар тым спартсменам, якія разам з мільёнамі неабыякавых грамадзян паўсталі супраць фальсіфікацый волевыяўлення беларускага народа.

Вы не разумееце, чаму вельмі многія спартсмены адкрыта выказваюць незадаволенасць хлуслівасцю ўлад, а я не разумею, чаму вас не кранаюць злачынствы, на якія яны пайшлі. Вы што, сапраўды аслеплі і не бачыце, які шалёны гвалт чыняць амапаўцы і службоўцы сілавых падраздзяленняў над удзельнікамі мірных пратэстных акцый? Вы што, не ведаеце пра такую сумную статыстыку: больш за трыццаць тысяч чалавек ужо зведалі затрыманні і прайшлі праз пастарункі Акрэсціна, суды, штрафы і нават турмы? Такога здзеку за апошнія сорак гадоў не зведалі грамадзяне ніводнай еўрапейскай краіны.

І вось што яшчэ хачу сказаць вам, спадар Харанека. Краіна многае дала нашым спартсменам. Сапраўды, без дапамогі дзяржавы не было б многіх медалёў і рэкордаў, але якая ж у гэтым заслуга ўлад, таго ж Лукашэнкі? Грошы на падтрымку спартсменаў выдаткоўваліся з дзяржбюджэту, а не браліся з кішэняў высокапастаўленых чыноўнікаў. А бюджэты напаўнялі падаткаплацельшчыкі, значыць, атлеты павінны быць удзячны ў першую чаргу свайму народу, а не нейкім уладным асобам.

Спадар Вячаслаў, цягаць гіры, мабыць, лягчэй, чым думаць галавой. Але на тое чалавеку і дадзена галава, каб думаць і не несці ўслых усялякую лухту, не займацца прымітыўнай дэмагогіяй. А тое, што ваша інтэрв'ю з'яўляецца менавіта прымітыўнай дэмагогіяй, – гэта факт.

**Андрэй КАНДРАЦЕНКА, аматар спорту.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Приговор суда не основан на законе и является несправедливым

Судья Фрунзенского района города Минска **Юлия Близнюк** постановила признать виновными **Максима Павлющика** и **Марию Бобович** по ч.2 ст.339 Уголовного кодекса (хулиганство) за надпись на тротуарной плитке «Не забудем» на месте гибели Александра Тарайковского, назначив наказание Павлющику в виде лишения свободы на срок два года в колонии общего режима, а Бобович – полтора года «домашней химии».

Правозащитный центр «Правовая помощь населению» (зарегистрированный в г.Киеве, Украина) считает, что в их действиях нет состава уголовного преступления, именуемого «хулиганством».

Мы считаем, что приговор суда не основан на законе и является несправедливым, по следующим основаниям.



Данная надпись была сделана в память об Александре Тарайковском, погибшем во время мирных протестов после выборов президента Беларуси.

Потребительские свойства плитки не изменились – она осталась на месте. Эта надпись не мешала движению пешеходов. Жалоб граждан на то, что слова «*Не забубем*» (такая надпись была в оригинале, но подразумевалось «Не забудем») каким-то образом вызывают негативные ассоциации или оскорбляют чьи-то чувства, не было.

Поддерживаю позицию адвоката, который сказал, что в действиях Павлющика нет состава уголовного преступления, что необходимо придерживаться принципов гуманизма и соразмерности наказания.

Если и говорить про ответственность за данную надпись, то в данной ситуации с большим натягом – говорю как правовед и человек, имеющий опыт следственной работы, – можно как максимум привлечь Павлющика и Бобович только к административной ответственности по статье 10.9 КоАП РБ. Ответственность по данной статье предусмотрена за умышленные уничтожение либо повреждение имущества, повлекшие причинение ущерба в незначительном размере, если в этих действиях нет состава преступления, и влечет наложение штрафа в размере до пятидесяти базовых величин.

Это решение суда создает неправильную судебную практику. Получается, что потом можно будет привлекать родителей, чьи дети во дворах рисуют мелом разные картинки, пишут слова, квалифицируя это как преступление.

Конечно, в этом деле присутствует политическая мотивация властей – запугать граждан, чтобы они не восстанавливали народный мемориал в память об убитом Александре Тарайковском.

Люди и сейчас каждый день приходят на это место и возлагают цветы в знак скорби по убитому минчанину.

Кстати, почему-то Следственный комитет так и не спешит возбудить уголовное дело против сотрудников милиции, которые на глазах у людей расстреляли в упор Тарайковского, но спешит привлечь к уголовной ответственности молодых людей, в чьих действиях нет и не было хулиганских мотивов.

Белорусские правозащитники их признали политическими заключенными.

**Олег ВОЛЧЕК, правовед, руководитель правозащитного центра «Правовая помощь населению» (зарегистрированного в г.Киеве, Украина).**

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

# Мечта и реальность

Об одном и том же революционном социальном событии можно судить по-разному. Можно – эмоционально и романтически, учитывая отдельные отрицательные параметры общественного процесса, которые не соответствуют идеальным представлениям некоторых наблюдателей. Можно – взвешенно и реалистично, анализируя тот же процесс комплексно, с учетом множества интересов не только внутренних, но и внешних игроков. Речь идет о попытке трансформации власти в Беларуси и неоднозначном отношении к данному процессу граждан нашей страны.

Мечта жить в своей демократической стране с развитой рыночной экономикой, некоем аналоге Швейцарии, сама по себе прекрасна. Идеализированные представления о белорусской Швейцарии с демократическими традициями, с минимальным вмешательством государства в стабильную рыночную экономику, с высоким уровнем жизни местного населения приводит в состояние фрустрации некоторых местных наблюдателей, желающих как можно быстрее такую картинку сделать былью. Мечтателям кажется, что достаточно массового прихода людей на площадь столицы, передачи власти в другие руки – и жизнь в стране потечет по новому руслу.

Однако демократические изменения обусловлены не только устремлениями части населения, но и объективными возможностями данного социума. Только зрелое гражданское общество, взращенное на открытой конкурентной рыночной среде, способно принимать взвешенные и ответственные решения. Речь идет о частниках, таких экономических субъектах, которые доминируют в экономике и самостоятельно принимают решения, не паразитируя ни на чьих ресурсах и постоянно рискуя собственной прибылью. Пока доля таких экономических субъектов у нас невелика – госсектор превалирует, и некоторые частники используют госресурсы. И тех и других к самостоятельным экономическим субъектам отнести нельзя.

Трансформация постсоветского социума, как показала история последних десятилетий, движимая романтическими устремлениями реформаторов, имела множество не самых удачных вариантов. Попытки быстрого слома номенклатурного правления нигде не привели к доминированию цивилизованного рынка, более того, в отдельных регионах спровоцировали силовые варианты с участием власти или криминала. Особая структура экономических субъектов, возникшая при распаде административного советского рынка, включающая номенклатурное, разного рода предпринимательское и криминальное измерения, вынуждает нас считаться с данной реальностью и избегать резких трансформаций, чреватых социальными потрясениями.

Кроме внутренних игроков, экономических субъектов внутри страны, на наши события влияют и внешние игроки. Опыт восточноевропейских стран и прибалтийских государств, относительно успешно вошедших в новое русло демократии и рынка, объясняется особой геополитической ситуацией между Западом и Россией того времени. После распада Советского Союза российские возможности влиять на данные страны были ограничены. И тогда, опираясь на разностороннюю помощь Запада, новые демократии избежали не только внутренних социальных потрясений, но и традиционной реакции российской политики.

Сегодняшнее время и положение Беларуси отличаются от того опыта. Ныне Россия проводит активную внешнюю политику, заявляя о себе, как о ключевом геополитическом игроке. Риски от ухода из сферы ее влияния для такого буферного государства, как Беларусь, сегодня возрастают в разы. При новой геополитической ситуации рассчитывать на всестороннюю поддержку Запада не приходится.

Учитывая особые интересы внутренних и внешних игроков вокруг последних белорусских событий, по крайней мере следует меньше всего руководствоваться романтическими устремлениями и обращать внимание на сложный внешнеполитический контекст.

**Людмила ГРЯЗНОВА, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

### *ОБ АВТОРЕ*

Людмила Грязнова родилась в 1953 году в городе Дзержинске Минской области. Окончила Белорусский государственный университет (1975), аспирантуру (1975–1977), экономист, преподаватель политической экономии. Кандидат экономических наук.

Депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва (1995–1996).

В 2001 году была избрана заместителем председателя Объединенной гражданской партии. В 2005-м инициировала создание «Правозащитного альянса».

РОЗДУМ

# …Адразу ўзнікне пытанне: а што рабіць з чырвоным сцягам?

Пачаліся спробы зняважыць бел-чырвона-белы сцяг. Аргументаў супраць нацыянальнай сімволікі асаблівых няма, таму яе нядобразычліўцы адно вярзуць: гэты сцяг выкарыстоўваўся падчас нямецкай акупацыі. З такой нагоды гучаць патрабаванні забараніць "нацысцкую сімволіку" ў заканадаўчым парадку.

Уявім сабе: прынялі такі закон. Адразу ўзнікне пытанне: што рабіць з цяперашнім дзяржаўным сцягам? Таксама забараніць? Мільёны людзей былі знішчаны ў сталінскія часы менавіта пад чырвоным камуністычным сцягам.

Справа не ў колеры сцяга, а ў тых пачуццях, якія сцяг абуджае ў душы чалавека. Я служыў ва Узброеных сілах СССР, прыняў вайсковую прысягу пад сцягам палка, вядома ж, чырвонага колеру, а ў маладыя гады не раз ахоўваў гэты сцяг, быў вартавым пры ім. Да сцяга я ставіўся з павагай – ён быў сімвалам гісторыі палка і лёсаў людзей, якія і ў мірны, і ў ваенны час выконвалі пад ім баявыя задачы. Але ў той жа час у часцях і на караблях Ваенна-марскога флоту службу неслі пад ваенна-марскім сцягам белага колеру.

Падчас марскіх паходаў чырвоны сцяг на мачце баявога карабля азначаў, што на борце яго выяўлена небяспечная хвароба. Чума, напрыклад. Альбо адбыўся мяцеж, і каманду ўзяў на сябе нахабны самазванец.

Даўно нацыянальна-гістарычны бел-чырвона-белы сцяг стаў сімвалам незалежнасці, адраджэння і барацьбы з дэспатызмам. Пра тое, што такое стаўленне нашага народа да сваёй сімволікі ўсур'ёз і назаўсёды, сведчаць многія падзеі апошняга часу.

**Алег АСІПОВІЧ, мінчанін.**

МЫСЛИ ВСЛУХ

## Светлана АЛЕКСИЕВИЧ, лауреат Нобелевской премии:

– Мы хотели красивую революцию, мы не хотели революцию, которая утонула бы в крови. Поскольку любая авторитарная власть лучше себя чувствует на военной территории. И если бы мы вошли туда, эти танки и БТР, которыми был наполнен город, они бы пришли в действие. Я считала, что это XXI век и мы должны победить убеждениями. Нас должно быть все больше и больше, мы должны убеждать, насколько можно, власть, и силовиков, и ту часть общества, которая молчит, потому что больше людей просто сидит на диване и ждет, что будет.

ХОЧУ СКАЗАТЬ…

## Василий ПОЛЯКОВ, историк, член Объединенной гражданской партии:

– Мирный характер – это сильная сторона белорусского протеста. Во-первых, это вызывает симпатию во всем мире. Во-вторых, отсутствует фактор, провоцирующий на ответное насилие. А когда насилие применяется к мирным людям, сразу становится понятно, кто преступник.

– Я сторонник парламентской республики. Мне кажется, что эта форма правления в наибольшей мере соответствует европейскому характеру Беларуси. Однако не исключаю, что на период претворения в жизнь необходимых экономических реформ актуальной будет президентская власть. Президентом, способным провести такие реформы, вполне мог бы стать Виктор Бабарико, который для многих белорусов представляется альтернативой авторитаризму Лукашенко, лидером, способным привести Беларусь к экономической состоятельности, реализовать ее демократический потенциал.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
11 СНЕЖНЯ 2020 г.

ПАМЯЦЬ

# «Ад Віцебска да Капыля на свет глядзім мы з-пад Брыля»

## (Успамін пра Янку Брыля)

Радзім ГАРЭЦКІ

*АД РЭДАКЦЫІ*

*У сталічным выдавецтве "Медыял" выйшаў у свет важкі двухтомнік акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Радзіма Гарэцкага "Пра сябе, пра жыццё, пра гісторыю". Больш за 1000 старонак цікавых успамінаў, развагаў над нашым беларускім лёсам, жыццёвых згадак пра сяброў. А іх у Радзіма Гаўрылавіча вельмі шмат – і было, і ёсць. Можна сказаць, што ён апрача таленту вучонага мае талент сяброўства, даволі рэдкі ў нашы дні. 7 снежня Радзіму Гарэцкаму споўнілася 92 гады. "Народная Воля" віншуе свайго даўняга чытача і аўтара і, улічваючы, што наклад названага двухтомніка ўсяго 150 асобнікаў, перадрукоўвае адтуль успамін пра народнага пісьменніка Янку Брыля.*



Калі я пазнаёміўся з Янкам Брылём, ён уразіў мяне найперш сваёй постаццю і абліччам: высокі, магутны, статны, прыгожы, з хвалістай чупрынай над вялікім ілбом, з прыемнай добразычлівай усмешкай. Дзесьці з канца 1970-х гадоў ён з жонкай Нінай Міхайлаўнай і Алесем Адамовічам, асабліва калі да нас прыязджала з Ленінграда Галіна Максімаўна Гарэцкая, прыходзілі на кватэру да маіх бацькоў, каб пагаманіць пра жыццё, творчасць і спадчыну Максіма Гарэцкага.

Яшчэ больш я зблізіўся і пасябраваў з Янкам Брылём у 1993 годзе, калі адзначалі 100-годдзе Максіма Гарэцкага. У Горках адбыліся ўжо другія Гарэцкія чытанні, рэспубліканскі ўрачысты вечар, адкрыццё мемарыяльнай дошкі на будынку Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і музея М.Гарэцкага ў Малой Багацькаўцы.

Па дарозе з Горак у нашым аўто ўсю дарогу гучалі песні, галоўным салістам быў Янка Брыль, які меў прыгожы голас, а аматарскі хор складалі Тэрэза Голуб, Таццяна Дасаева, Міхась Мушынскі і я. Пазней Янка Брыль прыгадаў, як яны разам з Нілам Гілевічам плылі на параходзе па Амуры, спявалі песні славянскіх народаў, і іх прынялі за "прыезджых артыстаў".

Калі ў пачатку 1990-х гадоў мяне выбралі віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі, я вельмі хацеў зрабіць нашу акадэмію больш нацыянальнай і таму прапанаваў нашаму Бюро Прэзідыума аднавіць выбары ганаровых акадэмікаў, якіх не было ўжо 35 гадоў. У ганаровыя члены акадэміі выбіраліся грамадзяне Беларусі, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё культуры і адукацыі рэспублікі.

У 1994 годзе ганаровымі акадэмікамі сталі Янка Брыль і Пімен Панчанка – найвыдатнейшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры і вядомыя грамадскія дзеячы. Нават толькі адна прысутнасць гэтых асоб надавала Агульнаму сходу АН Беларусі большую значнасць, урачыстасць і беларускасць. На жаль, пасля новых выбараў Прэзідыума АН Беларусі і выбараў Прэзідэнта дзяржавы беларускую мову паступова пачалі выцясняць з акадэміі, а нашых паважаных ганаровых акадэмікаў нярэдка проста забываліся запрасіць на сходы Аддзялення гуманітарных навук і на Агульныя сходы АН Беларусі.

Янка Брыль звычайна штолета выязджаў у Крынічнае на Нёмане, дзе меў дом з невялічкай мансардай, дзе напісаў многія свае творы. У шырока адчыненае акно ён бачыў цудоўны краявід – сіняе неба і аблокі, чуў шчэбет рознагалосых птушак, адчуваў сябе часцінкай прыроды, зліваўся з ёй, і прыходзіла натхненне...

Успамінаю, як на маіх "Жыгулях" з Нілам і Нінай Гілевічамі і маёй Галяй мы паехалі ў Крынічнае, каб павіншаваць Янку Брыля з 80-годдзем (4 жніўня 1997 года). Недалёка ад яго сядзібы прыблудзілі ў лесе, здалёку ўбачылі жанчыну, якая шукала грыбы, вырашылі спытаць дарогу. Калі падышлі, аказалася, што гэта Ніна Міхайлаўна – жонка Івана Антонавіча. Сваёй гасціннасцю, добразычлівасцю, розумам, вялікім гумарам абедзве Ніны былі падобныя. Колькі тады было радасці, смеху, добрых слоў, цікавых успамінаў!

Янка Брыль меў вялікую колькасць сяброў. Іван Мележ неяк сказаў, што зайздросціць яму: "У цябе столькі сяброў!" Іван Антонавіч адказаў, што сапраўды лічыць сябе шчаслівым чалавекам з гэтай прычыны. У людзях галоўнай станоўчай якасцю лічыў чалавечнасць, не цярпеў двурушніцтва, а сяброўства любіў "на роўных". Таму значна маладзейшым – спачатку Нілу Гілевічу, а потым і мне – прапанаваў перайсці на "ты". Гэта далося нам няпроста...

У Крынічным я вельмі любіў прагулкі з Іванам Антонавічам, які меў такое моцнае замілаванне ад дзівосных краявідаў Прынёмання, што мог гадзінамі хадзіць па лесе ўсцяж Нёмана. Ён з захапленнем паказваў магутныя дубы, якія мы не маглі ахапіць разам; кожны раз дзівіліся спілаванаму асілку дубу, з пня якога вырасла бяроза. Тут у яго думках нараджаліся мініяцюры, прысвечаныя прыродзе, настолькі лірычныя, што былі сапраўднымі вершамі ў прозе. Ён мне казаў, што не разумее тых, хто прытрымліваецца правіла "ні дня без радка", для яго галоўнае – настрой, натхненне і праўда жыцця.

Ён поўнасцю быў адданы роднай мове, свайму народу, Бацькаўшчыне. Усё жыццё любіў кнігу, прычым чытаў не толькі ўважліва, але вельмі хутка. Праз кнігу стаў сапраўдным энцыклапедыстам. Добра ведаў мастацкую літаратуру, а пры размовах часта цытаваў сваіх любімых пісьменнікаў – Льва Талстога, Чэхава, Адама Міцкевіча, Шаўчэнку, Багдановіча і іншых.

Былі ў нас і сумныя моманты. Калі 5 верасня 2003 года памерла Ніна Міхайлаўна, Янку Брылю не дазволілі пахаваць жонку на Кальварыйскіх могілках. На яе пахаванні ў Калодзішчах, калі я стаяў побач з Янкам на ўзгорку з прыгожым краявідам, ён сказаў: "А ведаеш, нават добра, што так атрымалася, мне падабаецца тут. Глядзі, які тут добры сасновы бор, мяккі сыпучы пясочак, чыстае паветра, цішыня. Вось і я лягу побач, а тлуму мне не трэба". Ён быў мудры, сціплы чалавек.

На памінках у кватэры на вуліцы Дразда я сядзеў побач з ім на канапе, прытуліўшыся да яго, магутнага, але такога аслабелага ад згубы, стараўся перадаць яму хоць нейкую сваю сілу, гаманіў паціху з ім, каб ён адчуў маё шчырае спачуванне і хоць трохі адхіліўся ад змрочных думак.

Іван Антонавіч быў вельмі шчаслівы ў сваёй сям'і: меў верную спадарожніцу жыцця Ніну Міхайлаўну, выдатных дзяцей – Галю, Наташу, Андрэя, любіў унукаў. Калі Янка ў сваёй кватэры жыў ужо адзін і з кійком хадзіў па хаце, я часта заходзіў да яго, асабліва пасля наведвання рэдакцыі часопіса "Роднае слова" (галоўны рэдактар Міхась Шавыркін), у якім я ў той час рэгулярна друкаваў свае артыкулы. Івану Антонавічу тады гэты часопіс заказаў нарыс пра яго радавод. Неяк не паспеў я ўвайсці, як ён з радасцю паведаміў: "А ведаеш, дарагі мой, павіншуй мяне – я стаў прадзедам!"

Ведаючы пра "Радавод", які мне паказалі ў рэдакцыі, я адразу спытаў: "А ў радаводзе ты паспеў гэта напісаць?"

Пазней у апошняй яго кнізе "Парастак" я з прыемнасцю прачытаў: "Вясёлы пастскрыптум. 10 красавіка, калі ўжо гэты нарыс быў здадзены ў рэдакцыю "Роднага слова " і прыняты да выходу ў чэрвені, я на шарай гадзіне, не ўключаючы святла, у адзіноце спяваў сам сабе, у нейкія моманты нават і ў слёзнай асалодзе ад музыкі і слоў – родных, рускіх, украінскіх, польскіх. І тут нечаканы і доўгачаканы званок ад Галі, што вось і яна ўжо бабуля, а я – такім чынам, прадзед!.. У Мішы з Машай – дачушка, імя якой падрыхтавана бацькамі загадзя – Даша, Дар 'я, а ў нас па-загорску – Адарка, Адара. Зноў жа высокае хваляванне, святочная навіна, пра якую мне захацелася дапісаць, бо яна ж і да месца ў размове пра мой, пра наш радавод".

Іван Антонавіч пазваніў мне 16 траўня 2006 года і паведаміў, што ляжыць у бальніцы ў Бараўлянах. Я вельмі ўсхваляваўся: чаму Бараўляны? Ён мяне супакоіў: звычайная адэнома. Спачатку паклалі яго ў агульную палату, у якой адзін трактарыст так брыдкасловіў і крычаў, што было вельмі няўтульна. Добра, што адна дактарыца, якая ведала, хто такі Янка Брыль, падняла шум, і яго як удзельніка Вялікай Айчыннай вайны перавялі ў палату з надпісам на дзвярах "Палата ВОВ". Калі мы з жонкай Галяй заехалі наведаць, я пажартаваў: "Як тут адчувае наш дарагі таварыш ВОВ?" Пасмяяліся. Ён быў спакойны, добразычлівы. Хаця яго кожны дзень наведвалі клапатлівыя дочкі, ён быў рад выслухаць ад нас розныя навіны. Цяжкую аперацыю перанёс мужна, але тры дні адыходзіў ад наркозу: спаў і трызніў. Але настрой быў аптымістычны, бадзёры. Падарыў нам нядаўна надрукаваную ў серыі "Беларуская проза XX стагоддзя" кнігу "Птушкі і гнёзды". Калі мы прыехалі, ён ляжаў з кропельніцай, і таму падпісваць было нязручна. Пісьменнік пажартаваў, што ніколі не рабіў надпіс такімі каракулямі...

Пасля рэабілітацыі ў Аксакаўшчыне ён бадзёрым голасам паведаміў, што ўжо ў хаце і неўзабаве збіраецца ў Крынічнае.

Перад ад'ездам ён разаслаў сябрам (амаль па 60 адрасах!) сваю новую кніжку "Парастак". Мы таксама атрымалі: "Дарагім Радзіму і Галі з сяброўскай прыхільнасцю. 8.VII.06. Я.Брыль". Я адразу пазваніў, але Іван Антонавіч ужо з'ехаў у Крынічнае. Вырашылі, што абавязкова прыедзем да яго ў дзень нараджэння – 4 жніўня 2006 года, калі яму споўніцца 89...

І раптам 25 ліпеня – неспадзяваны страшэнны ўдар: Янка Брыль памёр у бальніцы Лечкамісіі. Памёр раптоўна, бо за паўтары гадзіны да таго Наталлі Іванаўне сказалі, што "состояние удовлетворительное". Беларусь асірацела: пайшоў ад нас Вялікі пісьменнік, Вялікі грамадзянін.

На другі дзень праходзіла развітанне ў брылёўскай кватэры. Прыйшлі і мы. На вуліцы нас сустрэла ўнучка Данута. Кватэра была адчынена. Наташа, Галя, родныя, Марыя Захарэвіч, Валянціна Коўтун, Анатоль Сідарэвіч маўчалі ці шэптам размаўлялі... Іван Антонавіч, прыгожы, спакойны, трошку схуднелы, выглядаў, як быццам спіць. Ён заўсёды быў вельмі фотагенічны. Шматлікія яго здымкі такія выразныя, на іх добра бачны самыя разнастайныя пачуцці: радасць і роздум, задумлівасць і прыязнасць...

На наступны дзень – пахаванне. Людзі ішлі адзін за адным з кветкамі – сумная вестка разляцелася па ўсёй Беларусі. У двары сабралася чалавек пад 500. Вынеслі труну, над ёй і грамадой узняліся светлыя, але з чорнымі стужкамі, бел-чырвона-белыя сцягі. Ад сталічных афіцыйных структур не было ніводнага прадстаўніка, толькі сціплы вянок ад Прэзідыума АН…

Янку Брыля пахавалі, як ён і хацеў, побач з Нінай Міхайлаўнай. Цёплыя шчырыя словы сказалі Вольга Іпатава, Анатоль Вярцінскі, Анатоль Кудравец, Віктар Карамазаў, загадчык аддзела культуры Карэліцкага райвыканкама. Развіталіся, кінулі па тры жменькі зямлі ў магілу... І ўсё – не ўбачым больш жывога Янку Брыля...

На кніжнай паліцы ў маёй кватэры стаіць шэраг кніг (у тым ліку пяцітомнік і трохтомнік) Янкі Брыля і яго здымак. Працуючы, гляджу на іх, перыядычна перачытваю творы. Як некалі маёй стрыечнай сястры Галіне Максімаўне, яны дапамагаюць мне жыць.

Я разумею, што дажыў ужо да такога ўзросту, які абяцае хуткую сустрэчу з маім дарагім сябрам. Але сёння мне хочацца сказаць: "Дарагі Іван Антонавіч, каб толькі ведаў ты, як не хапае цябе, як сумна мне без тваіх званкоў, як не праходзіць востры, пякучы боль ад невымернай страты! Толькі з табой можна было шчыра абмяркоўваць падзеі сучаснасці, атрымаць параду".

Мне вельмі хочацца дажыць да таго часу, калі будуць выдадзены дзённікавыя запісы Янкі Брыля (больш за 5000 старонак!), каб яшчэ раз, чытаючы іх, атрымаць асалоду ад беларускага слова, ад хараства і святла душы Аўтара, яго мудрага разумення жыцця.

ЗАПРАШЭННЕ

Дзмітрый МАЦВІЕНКА:

## «Гэтая музыка нікога не зможа пакінуць абыякавым…»

*29 снежня на сцэне Вялікага тэатра оперы і балета – канцэрт зорак, якія ўваходзяць у музычную эліту свету. **Аксана Волкава**, **Надзея Кучар** і **Павел Пятроў** разам з маэстра **Дзмітрыем Мацвіенкам** падрыхтавалі праграму, якая здзівіць нават оперных гурманаў.*

Пераможца конкурсу «Аперaлія 2018», які ўзначальвае маэстра Пласіда Дамінга, беларускі тэнар Павел Пятроў выканае арыю Рудольфа з оперы «Багема» Дж.Пучыні, з якой спявак і стаў трыумфатарам гэтага прэстыжнага міжнароднага вакальнага першынства.

*«Калі любіце прыгожую музыку, якая не так часта гучыць са сцэны Вялікага тэатра, – прыходзьце!* – запрашае Пятроў (саліст Вялікага тэатра Беларусі зараз таксама працуе ў аўстрыйскай Graz Opera). – *Абавязкова выканаю арыі з опер «Рамэа і Джульета», а таксама песню Андрэйкі з «Вяселля ў Малінаўцы». Існуе меркаванне, што аперэта – лёгкі жанр, але я з гэтым паспрачаўся б».*

Надзея Кучар, якая афіцыйна залічана ў трупу Вялікага ў красавіку гэтага года, будзе спяваць таксама дуэтам з Аксанай Волкавай, якая, між іншым, выступіла рэжысёрам канцэрта.

*«Хоць канцэрт у афішы стаіць напярэдадні Новага года, яго наўрад ці можна назваць забаўляльным. Праграма абяцае быць вельмі сур'ёзнай,* – кажа дырыжор Дзмітрый Мацвіенка. – *Рады, што праграма атрымалася цікавай. Усіх сакрэтаў раскрываць не буду, але ёсць у праграме сапраўдныя артэфакты, проста рэдкія і фантастычныя па сваёй прыгажосці. Упэўнены: гэтая музыка нікога не зможа пакінуць абыякавым».*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Павел БЕЛАВУС:

## «Мы прыпынілі адпраўку пасылак за мяжу…»

*"Народная Воля" пацікавілася, якія навіны ў бізнесмена і стваральніка крамы symbal.by Паўла Белавуса. Тым больш што з'явілася інфармацыя, што не ўсе пасылкі з таварамі з інтэрнэт-крамы даходзяць да замежных пакупнікоў.*

– Мы зараз працуем у фармаце інтэрнэт-крамы, які і працавалі, – *распавядае Павел Белавус.* – Магазін пакуль не адчынілі. Пажарнікі выставілі нам новыя патрабаванні па сістэме вентыляцыі: трэба рабіць асобны праект, абсталяванне. Карацей, гэта надоўга.

**– А вы ж не так даўно распавядалі "Народнай Волі", што выканалі ўсе іх патрабаванні.**

– Так, але прыйшла новая праверка, і высветлілася, што ў нас цяпер праблемы з вентыляцыяй. Трэба зрабіць праект на вентыляцыю, паставіць нейкія фільтры ачысткі і нешта там яшчэ. Людзі, якія гэтым займаюцца, развялі рукамі і сказалі, што такога ў іх практыцы яшчэ не было.

Мы зараз на гэтым не канцэнтруемся, бо каранавірус, пандэмія і праца ў фармаце анлайн з дастаўкай поштай і кур'ерамі – у гэтыя часы для нас даволі аптымальны варыянт, які адпавядае



часу і сітуацыі. Але ёсць іншая праблема – з мытняй. На працягу апошніх трох месяцаў увесь час узнікаюць пытанні. Мы заўважаем, што нашы пасылкі ідуць без праблем у краіны Мытнага саюза, але як толькі яны прыходзяць на мытны кантроль, то затрымліваюцца там – і на месяц, і больш чым на месяц. Іх проста не выпускаюць з Беларусі.

**– То бок калі я жыву ў Францыі і замовіла сувенір з нацыянальнай сімволікай з вашага сайта, то магу яго не атрымаць?**

– Пасля заканчэння мытнага агляду па трэккодзе значыцца такі надпіс: *«Запись о причине задержания таможней».* За шэсць гадоў нашай працы такога ніколі не было, і толькі восенню гэтага года мытня перастала выпускаць нашы пасылкі за мяжу. Фактычна іх проста складваюць у адным месцы і не выпускаюць з краіны. 200 замежных пасылак ад symbal.by за верасень, кастрычнік і лістапад не дайшлі да пакупнікоў. У мяне не так даўно з гэтай нагоды была размова з намесніцай начальніка Мінскай рэгіянальнай мытні Людмілай Шавердак. Яна не змагла патлумачыць, чаму так адбываецца, але папрасіла напісаць пісьмовы зварот і паабяцала цягам бліжэйшых 15 дзён даць афіцыйны адказ. Чакаем адказу, бо людзі, якія працуюць на мытным кантролі, нам кажуць, што да нашых пасылак там звышувага. Паводле інфармацыі, якая да нас паступае, іх раскрываюць даглядаюць, адпраўляюць на нейкую экспертызу. Зараз мы прыпынілі адпраўку пасылак за мяжу і чакаем, як вырашыцца лёс 200 ужо адпраўленых.

**– А да сайта вашага магазіна няма ніякіх прэтэнзій?**

– Да вытворцаў, да нашай працы (а мы прайшлі праверкі і АБЭП, і падатковай) прэтэнзій няма. Але чамусьці мытня вырашыла, што нашы пасылкі адпраўляць нельга. Па якой прычыне – пытанне. Спадзяюся, у хуткім часе даведаемся.

**– А вы не спрабавалі аналізаваць, якія тавары затрымліваюць на мытні?**

– З большага – усё, што звязана з сімволікай, з чырвона-белымі колерамі.

**– Няма страху, што і інтэрнэт-краму зачыняць? Тым больш ад чыноўнікаў апошнім часам шмат заяў наконт бел-чырвона-белай сімволікі…**

– Мы да ўсяго гатовы. Але прынамсі па сваёй волі спыняць працу не збіраемся.

**Марына КОКТЫШ.**

СТОЛИЦА

## В центре Минска появился фермерский рынок

*В культурно-деловом квартале «К21» у станции метро «Молодежная» заработал крытый рынок фермерских продуктов.*

Крышу над головой получил фермерский рынок «Усё сваё», уже известный своими ярмарками на свежем воздухе. Внутри располагаются около 20 прилавков с домашней продукцией, на которых царит похвальное разнообразие: каждый фермер и кулинар работает в своей нише и не повторяет ассортимент соседнего торговца.

Продукция продается напрямую без торговых надбавок. Выдержанные сыры стоят от 27 до 30 рублей за кило, а молодые, вроде брынзы или адыгейского, отдают за 20. Полкило домашнего творога предлагают за 5 рублей, во столько же оценили 100 граммов бастурмы. Сало расходится по 14 рублей за кило, шпик – по 10, колбаса – по 28. Полкило козьей тушенки обойдется в 10 рублей.

Часть прилавков отдана под сладости. Шоколад ручной работы стоит от 16 рублей за кило – даже дешевле фабричного. Рядом продают медовый мусс с облепихой – по 10 рублей за 250-миллилитровую банку, а также крем-мед по 8 рублей за 100 миллилитров.

Из мучного – крафтовый хлеб по цене от 11 рублей за килограмм. Шарлотки идут по 6 рублей, а ржаные горбушки – по 4.

Рынок будет собираться в квартале «К21» каждую неделю по субботам. Застать фермеров можно с 11 до 18 часов.

Культурно-деловой квартал «К21» расположен на улице Кальварийской, 21 через дорогу от «Короны». В советское время здесь была мебельная фабрика, но в 1990-х корпуса пришли в запустение. Участок по рыночной цене выкупила компания «Белреконструкция», которая вместо того, чтобы снести, восстановила послевоенные постройки и теперь превращает их в модный квартал с офисами, магазинами, ресторанами и фудкортом. Вернули былой вид и Кальварийской башне – теперь уже с механическими часами и флюгером.

ВНЕ ИГРЫ

# Степан ПОПОВ: «Я хочу жить в Беларуси»

*Известный белорусский спортсмен, чемпион мира и Европы по самбо рассказал «Народной Воле», под каким флагом намерен выступать на соревнованиях, на какие деньги живет после того, как его лишили президентской стипендии, и как борется с коронавирусом.*

Степан Попов получил из Республиканского центра олимпийской подготовки «Стайки» письмо, в котором говорится, что с ним расторгают контракт и 31 декабря он будет уволен. Срок действия контракта истек, а продлить его не захотели.

Пару дней спортсмен, который ушел в оппозицию к действующей власти, не комментировал эту новость, собирался с мыслями. А потом выдал большой пост в «Фейсбуке» по этому поводу.

### О работе

– Сейчас уникальное историческое время в нашей стране, когда кто-то может резко продвинуться по карьерной лестнице и получить должность, о которой мечтал, – *откровенно написал Попов*. – Кто-то теряет любимую работу, которой посвятил большую часть своей жизни. Вот и меня постигла участь честного белоруса, который не молчит. Еще несколько месяцев назад для чиновников из министерства я был чуть ли не идеалом спортсмена. Меня удостоили чести пронести огонь Европейских игр на главной сцене Минска... Различные награды и мероприятия... Были планы, касающиеся развития спорта в Беларуси. Но так сложилось, что после всех этих ужасных событий в нашей стране меня сразу попытались сделать предателем своего вида спорта и команды. А потом эти же чиновники поливали грязью в прессе, пытались унизить мои честь и достоинство, прессовали...

### О друзьях

– Некоторые, как мне казалось, друзья по команде открыто в лицо мне говорили, что из-за таких, как я, у них будут проблемы. Проверки тренировок, снижение зарплат, а вообще для самбо как вида спорта это чуть ли не приговор. Попытки повесить на меня ярлыки: что я придумал себе что-то очень сладкое, что мне кто-то что-то пообещал, и поэтому мне на всех наплевать. Хотя недавно почти каждый из них показывал у себя в соцсетях и открыто говорил, что не может поверить в такие ужасы: про этот обман в 80%, про насилие… Почти все были в шоке.

Но когда коснулось дела быть честными самими с собой, то таких ребят в нашей сборной оказалось немного. Но хорошо, что они есть, я это очень ценю!

Также проявились те, кто просто пропал из моей жизни. Остальные стали тренироваться дальше и жить обычной жизнью, готовиться к соревнованиям, забыв про насилие, обман и жестокость.



### О титулах и репутации

– Для чего нужны медали и титулы вообще? – *рассуждает Степан Попов*. – Режиму сегодня ни ваши медали, ни титулы не нужны, не обольщайтесь. Это было доказано за последние 3 месяца. В короткий срок обесценили заслуги и имена легенд белорусского спорта, которые просто не промолчали. Им нужны только покорные, молчаливые и кивающие сторонники, поддерживающие лишь то, что им скажут. Так что медали, которые вы зарабатываете сейчас, это кусок железа на вашей шее и кусок хлеба, который вам за него даст этот режим. И обязательно этот хлеб заберут, когда захотят... Но сегодня можно за один миг потерять более ценные вещи –авторитет и репутацию.

### О письме в поддержку власти

– Появление провластного письма – для режима это попытка потянуть еще немного времени и сбить фокус с основных проблем, но многие отнеслись к нему слишком серьезно и стали активно показывать, что они самые преданные сторонники этого режима. Оно ничего не даст, кроме потери ценного авторитета подписантов и внесения раздора в ряды спортсменов.

Обсуждать подписантов не буду. Рад, что, в принципе, никого из неожиданных для себя я там не обнаружил.

Я много раз выходил из зоны комфорта. И каждый раз это было стимулом моего роста. Духовного, умственного или финансового. Для меня важно остаться честным с самим собой.

Когда на твоей совести нет груза, жизнь сама покажет тебе путь. Спасибо всем, кто рядом в трудную минуту, и спасибо тем, благодаря чьим ударам я стал сильнее.

Напомню, что очень много крутых специалистов уволили за их гражданскую позицию, тех, кто отдавал себя работе и тянул на своих плечах наш спорт. Те, кого на их место ставят, хотят лишь получать, командовать и требовать.

Насильно мил не будешь!

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## «Коронавирус подхватил на тренировке»

– Несмотря ни на что, я сегодня чувствую огромную поддержку, даже не успеваю отвечать на все комментарии, – *рассказал «Народной Воле» Степан Попов*. – Я прекрасно понимал, что меня в любом случае уволят – это было предсказуемо уже после того, как в сентябре с меня сняли президентскую стипендию. Это, кстати, был мой основной заработок.

**– Сколько, если не секрет?**

– 1000–1300 белорусских рублей в месяц. Оставалась только зарплата – около 800 белорусских рублей. У меня есть логистическое образование, и мне предлагали трудоустройство, но я, если честно, не хочу сейчас менять сферу деятельности. Я хочу еще остаться в спорте, выступать. Сейчас у нас поменяли весовые категории – было 74 килограмма, а сейчас 79, и я к этому готовился. И хочу выступить!

**– Вы будете выступать под каким флагом?**

– Это очень сложный вопрос… Весь мой тренерский состав подписал провластное письмо, плюс несколько коллег, которые в основном не показали результат и хотят приблизиться к тренерскому составу, потому что карьера уже подходит к концу.

В феврале у нас всегда проходил турнир по самбо на призы президента. Сейчас не известно, состоится ли этот турнир, ну и мое участие в нем пока под вопросом. А это отборный турнир. Поскольку МОК ввел санкции, вероятно, будут придумывать какие-то варианты отбора. И если я даже выиграю эти соревнования, у нас есть тренерский совет, который может сказать: мол, мы выберем другого спортсмена.

**– Сильно расстроились, что с вами расторгли контракт?**

– Для меня так даже проще. Если я на контракте, то обязан ходить на тренировки два раза в день, делать определенные задания. А сейчас я сам могу выстроить подготовительный план, поехать на сборы в Россию, могу здесь тренироваться. К соревнованиям меня должны допустить – думаю, здесь проблем не будет. Но меня лишили заработка. А у меня семья, двое детей…

Я говорил со своим личным тренером – меня оставили в национальной команде, в переменном составе. Мне даже могут оплачивать сборы, какие-то поездки. Но зато я не привязан к режиму и графику тренировок.

**– Тренер от вас не отказывается?**

– Надеюсь, нет. Но я сейчас на самоизоляции, у меня коронавирус, не видел его. Да и в команде многие болеют.

**– А где вы ковид подхватили?**

– Наверное, на тренировке с кем-то пообщался, потому что много там больных было. Еще они поехали на сборы, но до конца не оттренировались – все заболели.

**– Домашние тоже болеют?**

– Да. Жена – тяжелее всех. Младшая дочь без симптомов. У всех обоняние пропало. Но у меня уже возвращается. У нас вроде бы легкая форма. Но мы не расслабляемся – люди, в том числе и знакомые, умирают от этого вируса.

**– Многие откликнулись на ваш пост в «Фейсбуке»?**

– Да. Кто-то в личные сообщения пишет, кто-то звонит. Накопилось у меня много, понимаете? Не мог не высказаться. Письмо о расторжении контракта мне пришло пару дней назад, я собирался с мыслями, думал, как об этом рассказать…

**– А как планируете деньги зарабатывать?**

– Буду что-то думать. До января еще получу зарплату, и в январе последние 800 рублей. Но я еще до 9 августа все свои машины продал – у меня две было. Есть какие-то сбережения. И вот пока тихонечко проедаем денежки. Знакомые, друзья предлагают помощь, я пока отказываюсь – сегодня у всех проблемы с финансами, у всех свои заботы. У меня немало друзей за рубежом, которые тоже говорят: вышлем тебе денег. Но пока мне это не нужно. Включили режим экономии.

**– С двумя детьми не очень-то режим экономии включишь…**

– Это точно. Дети – это постоянные расходы на учебу, одежду, лекарства, игрушки.

**– Сколько вашим детям?**

– 16 и 6 лет. Дочка начала чешский изучать – ей нравится.

**– Может, эмиграция?**

– Нет. Я много раз об этом говорил: это не мой вариант. Уезжать не планирую. У меня здесь родители, друзья, родственники. Я хочу жить в Беларуси. Сейчас выздоровею и буду тренироваться. Для меня спорт – это драйв.

**Марина КОКТЫШ.**

СЕКРЕТЫ КРАСОТЫ

# Уход за губами зимой: 10 простых советов

*В холодное время года важно обеспечить губам усиленный уход и защиту. Как это лучше всего сделать?*

### 1. Гидратация губ изнутри

В зимний сезон организм подвержен обезвоживанию не меньше, чем летом. Особенно это сказывается на здоровье губ. Важно поддерживать их гидратацию изнутри. Сделать это можно с помощью правильного рациона питания с включением достаточного количества жидкости. Помимо питьевой воды увлажнить кожу изнутри помогут сочные фрукты и овощи. Полезно есть продукты, богатые витаминами А и С. Витамин А хорошо сохраняет и восстанавливает ткани кожи, а витамин С повышает выработку коллагена, делая губы более упругими и красивыми.

### 2. Домашние рецепты натуральных масок

Домашние рецепты включают в себя натуральные и доступные компоненты: мед, оливковое масло, авокадо, сливки и др. Первый из перечисленных продуктов – отличный природный увлажнитель. Его эффективно использовать для лечения сухих, потрескавшихся губ.



### 3. Еженедельные процедуры отшелушивания

Регулярное отшелушивание делает губы мягкими и розовыми. Подобный уход показан по крайней мере один раз в неделю. Рецепты домашних отшелушивающих средств чаще всего включают в себя сахар и растительные масла. К примеру, несложно приготовить скраб из половины чайной ложки сахара и оливкового масла. Эту пасту аккуратно втирают в кожу губ круговыми движениями, удаляя омертвевшие клетки. Остатки смывают теплой водой. Завершить уход за кожей губ после отшелушивания можно нанесением миндального или кокосового масла.

### 4. Уход за губами перед сном

В течение зимних месяцев для губ важен правильный уход перед сном. Перед тем как лечь спать, нужно тщательно помыть губы теплой водой, высушить их полотенцем и сразу же нанести бальзам для губ. Желательно держать это средство недалеко от кровати и щедро использовать перед сном. Лучше отдать предпочтение бальзаму для губ на основе натуральных масел, а не на воде или спирте. Если под рукой бальзама не окажется, то его могут заменить несколько капель оливкового или миндального масла.

### 5. Контроль над потреблением кофеина

Чрезмерная доза кофеина обезвоживает кожу, к тому же кофе относится к мочегонным напиткам, что снижает уровень жидкости в организме. Вместо кофе лучше предпочесть травяные чаи – они хорошо увлажняют тело и полезны для здоровья.

### 6. Регулярное увлажнение

Правильное решение – увлажнять губы по несколько раз в день. Начинать можно с утра, после чистки зубов. В этом поможет зубная щетка с мягкой щетиной. Ею круговыми движениями удаляют сухую кожу с губ. Затем массируют губы с несколькими каплями оливкового масла в течение 1–2 минут. Это увеличит приток крови и придаст коже естественный розовый оттенок. В холодное время года увлажнять губы желательно каждые два часа. После плавания, физических упражнений нужно повторять эту процедуру.

### 7. Отказ от привычки облизывать губы

В зимние время года некоторые люди стараются избавиться от сухости губ, периодически облизывая их. Но лучше отказаться от такой вредной привычки – она способна лишь навредить нежной коже. Когда слюна соприкасается с губами, она быстро испаряется, и губы высыхают гораздо быстрее, чем после применения обычного бальзама. Чтобы избавиться от привычки облизывать и кусать губы, под рукой нужно всегда держать бальзам для губ или гигиеническую помаду. И применять их всякий раз, когда захочется провести по губам языком.

### 8. Защита от суровых зимних ветров и солнца

При сильном морозе губам нужен не только уход, но и серьезная защита. Губы необходимо прикрывать теплым шарфом, воротником и не забывать о бальзаме для губ. От вредного воздействия ультрафиолетовых лучей защитят увлажняющие средства для губ с 15 SPF.

### 9. Увлажнение воздуха в доме

Дополнительную влагу коже обеспечит увлажнитель воздуха. Его можно использовать и во время сна, настроив на 30–50%. При достаточно влажном воздухе в комнате кожа губ будет меньше сохнуть и трескаться.

### 10. Отказ от курения

Дым от сигареты сушит и обезвоживает губы, которые зимой и так сильно страдают. От сигаретного дыма они могут менять цвет, становиться темными и тусклыми.

ШАХМАТЫ

## З нашай пошты



Прапануем увазе аматараў шахмат задачу, якую даслаў **Павел Малюшыцкі** са Смалявічаў *(гл.дыяграму)*.

**Белыя:** Крb1, Фh7, Лe5, Лf1, Са7, Сс2 (6).

**Чорныя:** Кра3, пп. b4, c5, e7, f4, g4, g6 (7).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Лепшая ў конкурсе

Кампазіцыя беларускага майстра **Міхаіла Храмцэвіча** заваявала першы прыз на міжнародным конкурсе ў Марока. Нагадаем, што ў задачах на зваротны мат белыя прымушаюць (!) чорных даць мат белым.

**Белыя:** Крb5, Фe2, Лe1, Лg6, Се5, Сh1, Ке4, Кg8, пп. a4, b6, f2, f4, g3, g5 (14).

**Чорныя:** Крd5, Фh6, Ла7, Ла8, Се8, Сf8, пп. a5, d7 (8).

**Зваротны мат за 3 хады.**

Рашэнне: 1.Са1! ~ 2.Кd2+ Ф:h1 3.Фе6+ dex, 1...Ф:g5 2.Л:g5+ Кре6 3.Фа2+ d5x, 1...Сf7 2.Кс3+ Крd4 3.Фс4+ С:с4x, 1...С:g6 2.Кf6+ Крd6 3.Фd3+ С:d3x, 1...Фg7 2.Фd3+ Фd4 3.Фс4+ Ф:с4x, 1...Ф:h1 2.Лd1+ Ф:d1 3.Фd3+ Ф:d3x (1...Ф:g6 2.Кf6+ Крd6 3.Фd3+ Ф:d3x).

## Зноў дыстанцыйна

Пасля летняга перапынку паміж дзвюма хвалямі пандэміі аднавіліся анлайн-турніры мацнейшых гросмайстраў, якія праводзяцца пад эгідай чэмпіёна свету Магнуса Карлсена. У чарговым з іх спачатку 16 шахматыстаў гулялі ў кваліфікацыйным турніры кожны з кожным, а потым восем лепшых правялі матчы стадыі плэй-оф. М.Карлсен пераадольваў дыстанцыю ўпэўнена, але ў фінале ўсё ж саступіў Уэслі Со, амерыканскаму гросмайстру філіпінскага паходжання. Вось некалькі партый са згаданага спаборніцтва.

***Уэслі Со – Лявон Аранян***

1.d4 Кf6 2.c4 e6 3.Кf3 d5 4.g3 Се7 5.Сg2 0-0 6.0-0 dc 7.Фс2 а6 8.а4 Сd7 9.Ф:с4 Сс6 10.Сf4 Сd6 11.Кс3 С:f4 12.gf a5 13.e3 Кbd7 14.Фb3 Ла6 15.Лfd1 Фе7 16.Фс2 g6 17.Лас1 С:f3 18.С:f3 с6 19.b3 Лb6 20.Кb1 Кd5 21.Кd2 Кb4 22.Фb1 Фh4 23.Се2 Кf6 24.Кf3 Фh3 25.Кg5 Фh4 26.Кf3 Фh3 27.Ке5 Лd8 28.Лс5 Кbd5 29.Сf1 Фh4 30.h3 Кd7 31.К:d7 Л:d7 32.Фс2 Фd8 33.Л:а5 Ла6 34.Л:а6 bа 35.С:а6 Кb4 36.Фе2 с5 37.Сb5 Лd6 38.Фе1 Кd5 39.Се2 Фb6 40.dc Ф:с5 41.Сс4 Лс6 42.а5 Кf6 43.а6 Лс8 44.Фd2 Фh5 45.а7 Ла8 46.Фd8+, 1:0.

***Сяргей Каракін – Хікару Накамура***

1.e4 e5 2.Сс4 Кс6 3.Кс3 Кf6 4.d3 Сb4 5.Кf3 d6 6.0-0 С:с3 7.bc Се6 8.Сb3 h6 9.Ле1 0-0 10.h3 Ке7 11.Кh4 с5 12.Фf3 Крh7 13.g4 Кfg8 14.g5 с4 15.dc Лс8 16.Кf5 Фd7 17.с5 dc 18.Лd1 Фс6 19.К:е7 К:е7 20.gh с4 21.hg Кр:g7 22.Са3 Кg6 23.С:f8+ Л:f8 24.h4 К:h4 25.Фg3+ Кg6 26.f3 cb 27.ab Лh8 28.с4 Фс5+ 29.Крf1 Крf6 30.Фg1 Сh3+ 31.Кре2 Кf4+ 32.Крd2 Лd8+, 0:1.

***Тэймур Раджабаў – Ян Няпомняшчы***

1.d4 Кf6 2.c4 g6 3.Кс3 d5 4.Кf3 Сg7 5.Сf4 0-0 6.е3 с5 7.dc Фа5 8.Лс1 Ке4 9.Се5 С:е5 10.К:е5 Кс6 11.К:с6 bc 12.cd К:с3 13.Л:с3 Ф:а2 14.b4 cd 15.Фс1 d4 16.ed Фd5 17.Се2 Лb8 18.0-0 Л:b4 19.Сf3 Ф:d4 20.Лd1 Фе5 21.Ле3 Фс7 22.с6 Се6 23.h3 а5 24.Л:е6 fe 25.Фе3 Лf6 26.g3 Фb6 27.Ф:b6 Л:b6 28.с7 Лf8 29.Ла1 Лс8 30.Л:а5 Л:с7 31.Ла2 Крg7 32.Крg2 Лb4 33.Ле2 Крf6 34.Се4 Ла7 35.Ле3 Лb2 36.Лf3+ Крg7 37.h4 Лd7 38.Сс6 Лd8 39.Се4 е5 40.h5 gh 41.Лf5 Лf8, 0:1.

## У горадзе над Пінай

Наш чытач **Віктар Жук** даслаў інфармацыю пра чэмпіянаты Брэсцкай вобласці сярод мужчын і жанчын, якія прайшлі ў Пінску. У мужчынскім турніры (31 удзельнік) перамогу ўпэўнена атрымала… дзяўчына – мінулагодняя чэмпіёнка Беларусі сярод жанчын **Аляксандра Тарасенка**. На другім і трэцім месцах – адпаведна **Аляксей Грыгаровіч** і **Уладзіслаў Каташук**. У жаночым турніры (восем удзельніц) прызавую тройку склалі **Аляксандра Шабан**, **Мілена Сідарэня** і **Алена Аль-Шэйх**.

Прапануем дзве партыі з чэмпіянатаў Берасцейшчыны.

***Арцём Раеўскі – Юрый Аксяневіч***

1.Кf3 с6 2.g3 g6 3.Сg2 Сg7 4.d4 d5 5.0-0 Кf6 6.с4 0-0 7.cd cd 8.Ке5 Кbd7 9.f4 Ке4 10.Кс3 Кdf6 11.Фb3 К:с3 12.bc Ке4 13.Лd1 Фс7 14.Сb2 Се6 15.Лас1 С:е5 16.fe f5 17.ef Л:f6 18.с4 Сf5 19.cd Фd7 20.d6+ Лf7 21.de Ф:е7 22.Са3 Фd7 23.g4 Кf2 24.gf К:d1 25.fg hg 26.Л:d1 Крg7 27.d5 Ле8 28.Сb2+, 1:0.

***Аляксандра Шабан – Ірына Ногач***

1.d4 Кf6 2.с4 g6 3.Кс3 Сg7 4.е4 d6 5.Сg5 Кbd7 6.Се2 0-0 7.h4 h5 8.g4 hg 9.f3 g3 10.f4 Кh7 11.h5 gh 12.Л:h5 Кdf6 13.С:f6 К:f6 14.Лg5 е6 15.е5 Кh7 16.Лh5 Ле8 17.Фd3 Кf8 18.Ф:g3 Кg6 19.0-0-0 Крf8 20.Сd3 Кре7 21.С:g6 fg 22.Ф:g6 Крf8 23.Кf3 Фе7 24.Кg5 Сd7 25.Кh7+ Крg8 26.Кf6+ Крf8 27.Лh8+ С:h8 28.Фg8x.

## Праверце адказы

Задача **М.Кошаля**, змешчаная ў "Народнай Волі" 1 снежня, рашаецца: **1.Кf7!** Першымі правільна рашылі **Васіль Жуковіч**, **Сяргей Галкін**, **Ігар Ананіч**, **Віктар Жук**, **Сяргей Цяльпук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**



**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ